Лета–2001

# Вучым, як арганізаваць адпачынак

***Штогод у аздараўленчых летніках нашай краіны студэнты і навучэнцы — будучыя педагогі — праходзяць летнюю педагагічную практыку. Поспех гэтай практыкі ў многім залежыць ад якасці тэарэтычных і практычных заняткаў па падрыхтоўцы іх да работы педагогамі-выхавальнікамі.***

Метадычным аддзелам Гомельскага абласнога Палаца творчасці дзяцей і моладзі распрацавана і ажыццяўляецца праграма падрыхтоўкі навучэнцаў музычна-педагагічнага каледжа імя Л.С.Выгоцкага да летняй педагагічнай практыкі ў аздараўленчых летніках.

Пры распрацоўцы гэтай праграмы былі вызначаны наступныя мэты:

— падрыхтоўка навучэнцаў да арганізацыі актыўнай практычнай дзейнасці ў атрадзе;

— Як навучыць правільна арганізаваць вольны час дзяцей і падлеткаў.

Гэтая праграма складаецца з чатырох блокаў. Першы блок — тэарэтычныя і практычныя заняткі. 15-гадзінны курс уключае 12 тэм. Навучэнцы знаёмяцца з Прыкладным палажэннем аб аздараўленчым летніку, функцыянальнымі абавязкамі выхавальніка, іншымі нарматыўнымі дакументамі.

Арганізацыйны перыяд — важны і найбольш складаны прамежак часу ў аздараўленчым летніку. Ад таго, як ён будзе праведзены, у многім залежыць поспех усёй змены. Двухгадзінныя заняткі па гэтай тэме ўключаюць у сябе не толькі паведамленне неабходнай інфармацыі, але і азнаямленне з гульнямі, якія спрыяюць больш хуткаму знаёмству дзяцей адзін з адным, з педагогамі, тэрыторыяй летніка.

Задача навучыць будучых педагогаў планаваць выхаваўчую работу на аснове арганізацыі разнастайных сацыяльна значных спраў рэалізуецца на занятках, што праводзяцца ў форме КТС "Нашы справы".

Пытанням арганізацыі дзіцячага самакіравання і ўзаемадзеяння з ім выхавальніка таксама прысвечаны адны з заняткаў. Рэальна існуючае самакіраванне дае магчымасць сфарміраваць у дзяцей уменне планаваць, аналізаваць і арганізоўваць сваё жыццё ў атрадзе.

Пры распрацоўцы гэтай праграмы мы вызначылі патрыятычнае выхаванне як адзін з прыярытэтных напрамкаў дзейнасці педагога ў аздараўленчым летніку. Таму студэнты атрымліваюць канкрэтныя рэкамендацыі па распрацоўцы праграмы Дня Рэспублікі Беларусь, правядзенні акцыі "Памятаем. Ведаем. Шануем" (Лінейка памяці, віктарына, вечар "Песні ваенных гадоў").

Як павысіць выхаваўчы патэнцыял змены ў аздараўленчым летніку? Добрым памочнікам у вырашэнні гэтай праблемы з'яўляюцца калектыўныя творчыя справы. "Трэба весці дзяцей ад творчасці ў забаве да сацыяльнай творчасці...", — піша С.А.Шмакаў у сваёй кнізе "Канікулы". Ідэі раздзела "Навошта патрэбны КТС" (дзейнасць, мікрагрупа, творчасць) мы выкарыстоўваем, праводзячы двухгадзінныя заняткі "КТС у аздараўленчым летніку". Навучэнцы атрымліваюць рэкамендацыі па распрацоўцы пазнавальных, мастацкіх, забаўляльных, працоўных КТС "для дзяцей рознага ўзросту.

Некалькі заняткаў прысвечаны гульневым тэхналогіям. Гэта "Методыка адбору і правядзення рухомых гульняў", "Беларускія фальклорныя святы, гульні", "Гульнятэка ў атрадзе. Афармленне гульнёвага рэквізіту", "Свята гульні і цацкі", "Інтэлектуальныя гульні".

На кожных занятках навучэнцы атрымліваюць заданні, напрыклад, запісаць умовы 5-7 рухомых гульняў, распрацаваць праграму аднаго з тэматычных дзён і г.д. (падчас заліку выкананне гэтых заданняў правяраецца).

Другі блок — трохдзённы вучэбна-метадычны сход "Лета" (май). Праводзячы яго, мы вызначаем для сябе наступныя задачы: замацаванне ведаў і ўменняў, неабходных для арганізацыі развіццёвага баўлення часу дзяцей і падлеткаў ва ўмовах часовага дзіцячага калектыву; авалоданне навыкамі наладжвання супрацоўніцтва дзяцей і дарослых у аздараўленчым летніку; раскрыццё творчага патэнцыялу навучэнцаў музычна-педагагічнага каледжа.

Падчас сходу з кожнай вучэбнай групай-атрадам працуе метадыст-выхавальнік. Такіх атрадаў шэсць.

Вырашэнне пастаўленых задач дасягаецца з дапамогай аднаўлення і абыгрывання ключавых падзей у жыцці аздараўленчага летніка. У атрадах праводзяцца арганізацыйныя сходы. Кожны атрад выбірае сабе назву, дэвіз, песню.

Будучыя выхавальнікі вучацца праводзіць гульні, якія развіваюць навыкі ўзаемінаў — "Снежны камяк", "Музычны капялюш", "Я дару табе". Яны таксама асвойваюць гульні, якія спрыяюць выяўленню лідэраў у часовым дзіцячым калектыве ("Кінастудыя", "Фатаграфія", "Слон" і іншыя). Праводзіцца арганізацыйна-дзейнасная гульня "Сітуацыя".

Першы дзень работы завяршаецца конкурснай праграмай — эстафетай-прэзентацыяй атрадаў (працягласць праграмы 5-10 хвілін).

Ацэньваюцца выхаваўчая каштоўнасць праграмы, магчымасць яе выкарыстання ў практыцы аздараўленчага летніка, а таксама творчасць, фантазія, масавасць і гумар.

У праграме другога дня сходу — атрадная лінейка "Учорасёння", КТС "5 мадэляў тэматычных дзён" ("Дзень Рэспублікі Беларусь", "Дзень Зямлі", "Дзень вясёлых іспытаў", "Дзень кахання і дружбы", "Дзень здароўя"), творчы практыкум "Летнія гульні" для дарослых і маленькіх.

Завяршаецца дзень конкурсам эрудыцыі і творчасці атрадаў "5х5" (комплекс вясёлай фіззарадкі, слоўнік КТС, гульні з эстрады, дзіцячыя песні, "Знайсці выйсце" (рашэнне педагагічных задач).

Тэматыка заняткаў трэцяга дня прысвечана Міжнароднаму дзесяцігоддзю культуры міру і ненасілля (абвешчана ААН з 2001 па 2010 гг.). Будучыя выхавальнікі знаёмяцца з методыкай правядзення трэнінгу па канфліксталогіі, авалодваюць уменнямі і ведамі, неабходнымі для арганізацыі дзейнасці па прафілактыцы і вырашэнні канфліктаў. Гэтыя заняткі праводзяцца з выкарыстаннем дапаможніка "Вырашэнне канфліктаў", падрыхтаванага Беларускай асацыяцыяй клубаў ЮНЕСКА.

Вучэбна-метадычны сход завяршаецца залікам.

Трэці блок — метадычныя выезды ў аздараўленчыя летнікі, дзе навучэнцы праходзяць летнюю педагагічную практыку.

Падчас выездаў арганізуюцца выставы метадычных распрацовак "Летні калейдаскоп". Метадысты Палаца творчасці дзяцей і моладзі сустракаюцца з навучэнцамі-практыкантамі, старшымі выхавальнікамі, начальнікамі летнікаў. Летась добрую ацэнку атрымала работа навучэнцаў Гомельскага музычна-педагагічнага каледжа ў аздараўленчых летніках "Рамантыка", "Прамень", "Юны хімік", "Юнга". Практыканты арганізавалі правядзенне разнастайных конкурсаў, святаў. Напрыклад, "Дзень імянінніка — Дзень варэння", "Дзень вясёлых іспытаў".

Чацвёрты блок — канферэнцыя, прысвечаная падвядзенню вынікаў летняй педагагічнай практыкі.

У праграме такой канферэнцыі — выстава педагагічных дзённікаў, выступленні навучэнцаў, анкетаванне. Аналіз анкет даў магчымасць высветліць, што, увогуле станоўча ацэньваючы праграму падрыхтоўкі да практыкі, навучэнцы прапанавалі дапоўніць яе тэмамі "Методыка распрацоўкі сцэнарыя", "Выхаванне культуры паводзінаў", "Методыка работы з дзецьмі з праблемных сем'яў".

На пытанне "Якія цяжкасці вы адчулі падчас праходжання педагагічнай практыкі?" адказы навучэнцаў былі такімі: арганізацыя працы (як самога выхавальніка, так і дзяцей, асабліва па самаабслугоўванні апошніх); недахоп метадычных матэрыялаў; узаеміны з дзецьмі (прычыны — грубасць, нежаданне працаваць); недахоп спартыўнага, гульневага інвентару.

Уласная творчасць, імкненне да саморазвіцця — неабходныя ўмовы паспяховага праходжання практыкі. Менавіта пра гэта напісала ў сваёй анкеце адна з навучэнак: "Праблема ў тым, што мы прывыклі штосьці браць з літаратуры, а самі не можам прыдумаць. Трэба больш развівацца самім, тады будзе менш цяжкасцяў".

Супрацоўніцтва метадычнага аддзела Гомельскага абласнога Палаца творчасці дзяцей і моладзі і музычна-педагагічнага каледжа імя Л.С.Выгоцкага працягваецца. 25-27 мая гэтага года адбудзецца чарговы, чацвёрты, вучэбна-метадычны збор "Лета-2001".

**Людміла КУЛІК,**
**метадыст Гомельскага абласнога Палаца творчасці дзяцей і моладзі.**

Педагагічная майстэрня

# Пішам сачыненне

***У фарміраванні навыкаў звязнай мовы вучняў вялікая роля належыць пачатковай школе, калі закладваюцца яе асновы. Таму ў працы настаўніка асаблівае месца павінна займаць сістэмная, мэтанакіраваная дзейнасць па развіцці вуснай і пісьмовай мовы вучняў. Такую працу паспяхова ажыццяўляе настаўніца пачатковых класаў сярэдняй школы № 2 Стаўбцоў Людміла Георгіеўна Старавойтава.***



МЯНЕ вельмі зацікавіла праблема напісання сачыненняў у пачатковай школе, — гаворыць Людміла Георгіеўна. — Лічу, яна надзвычай актуальная і з'яўляецца адной з галоўных у сучасным працэсе навучання і выхавання".

Сапраўды, сачыненне — адзін з найбольш складаных відаў работы над мовай. Увесь працэс складання вучнямі тэкстаў сачыненняў і іх напісання павінен быць сістэмным, мэтанакіраваным, каб кожная новая работа садзейнічала іх разумоваму і моўнаму развіццю.

Рыхтуючы вучняў да чарговага сачынення, Людміла Георгіеўна ўзважвае, якая педагагічная мэтазгоднасць гэтай працы, чаму яна навучыць дзяцей, як узбагаціць іх мысленне і мову, і, па-другое, якое месца гэта сачыненне зойме сярод іншых практыкаванняў па развіцці звязнай мовы вучняў. Разумеючы мэту і сэнс кожнага сачынення, настаўніца свядома выбірае тую, а не іншую тэму, тып сачынення, вызначае метадычныя прыёмы падрыхтоўкі да яго, умела звязвае яе з папярэднімі і наступнымі сачыненнямі.

Так ствараецца сістэма ў працы над сачыненнямі — сістэма, якая ахоплівае значныя прамежкі часу: паўгоддзе, навучальны год, усе чатыры гады пачатковага навучання. У той жа час настаўніца стварае такія ўмовы працы на ўроку, пры якіх кожны вучань мае магчымасць праявіць сваю творчую індывідуальнасць і самастойнасць.

Дзіцячае сачыненне — гэта творчая праца, у якой вучань выяўляе сваё бачанне свету, густ, дае выхад сваёй фантазіі. Але ў той жа час гэта і навучальная праца, адно з практыкаванняў па развіцці пісьмовай мовы вучняў. Выконваючы гэта практыкаванне, дзеці вучацца:

1) назіраць, вылучаць са свайго вопыту галоўнае — тое, што адносіцца да тэмы сачынення, асэнсоўваць факты, падзеі, веды;

2) адбіраць патрэбныя для сачынення словы, будаваць словазлучэнні і сказы па законах граматыкі;

3) размяшчаць матэрыял у патрэбнай паслядоўнасці, г.зн. складаць план і прытрымлівацца яго пры складанні звязнага тэксту, а ў выпадку неабходнасці — мяняць паслядоўнасць;

4) захоўваць арфаграфічныя і пунктуацыйныя нормы, дзяліць тэкст на абзацы, захоўваць чырвоны радок і інш.

Людміла Георгіеўна ўпэўнена, што ў развіцці звязнай мовы вучняў надзвычай вялікую ролю адыгрывае малюнак. Ён уздзейнічае на пачуцці дзіцяці, адкрывае перад ім тыя бакі жыцця, з якімі ён мог бы і не сутыкнуцца ў сваім жыцці, дапамагае глыбей зразумець і тыя з'явы, якія ўжо знаёмы школьніку. Малюнак развівае назіральнасць і ўяўленне, вучыць разумець мастацтва. Настаўніца лічыць, што ўжо ў падрыхтоўчым класе трэба выкарыстоўваць малюнак як сродак развіцця звязнай мовы вучняў. Для гэтага яна бярэ серыю з 2-5 малюнкаў і вучыць дзяцей складаць план, сюжэт сачынення. Вучні, адказваючы на пытанні настаўніцы, складаюць па кожным малюнку 1-3 сказы і даюць загаловак свайму выказванню. Напрыклад, вучням падрыхтоўчага класа даюцца тры карціны:

1. Два хлопчыкі і дзяўчынка ідуць па дарозе. У руках у іх кошыкі. Удалечыні віднеецца лес.

2. Тыя ж дзеці збіраюць грыбы ў лесе.

3. Пакой. За сталом сядзіць сям'я і абедае.

Пытанні і заданні для гутаркі:

Дайце імёны хлопчыкам і дзяўчынцы. Куды яны ідуць? Для чаго? Ці многа грыбоў у лесе? Якіх? Колькі грыбоў набіралі дзеці? Што зрабіла мама з грыбамі? Што сказалі дзецям дарослыя?

Вось які тэкст склалі вучні:

Вова, Юра і Лена пайшлі па грыбы. У лесе шмат лісічак і белых грыбоў. Дзеці назбіралі іх поўныя кошыкі. Дома мама падсмажыла грыбы. Усе елі і хвалілі людзей.

У першым і другім класах настаўніца вучыць дзяцей складаць план, даваць загалоўкі малюнкам. Затым па кожным з іх складаецца невялікі звязны тэкст і запісваецца ў выглядзе асобнага абзаца. Расказваючы ўрывак за ўрыўкам, дзеці складаюць цэлы звязны тэкст-сачыненне.

Вось як арганізавала працу настаўніца па напісанні сачынення па малюнку "Як Вася вучыўся хадзіць на лыжах". Вучням былі прапанаваны чатыры сюжэты:

1. Хлопчыкі рыхтуюцца да хадзьбы на лыжах.

2. Першыя два ўрокі лыжніка.

3. Няўдалы спуск з гары.

4. Навучыўся!

Некалькі хвілін вучні моўчкі разглядаюць малюнкі, а потым адказваюць на пытанні настаўніцы.

Да першага малюнка:

Калі адбываецца дзеянне? Куды сабраліся хлопчыкі? Як яны апрануты? Складзіце першую частку апавядання па першым малюнку. Дайце імёны тром хлопчыкам.

Да другога малюнка:

Хто навучыў навічка хадзіць на лыжах? Як трэба хадзіць? Які быў снег у той дзень? Ці добра было хадзіць на лыжах? Ці ўдалымі былі першыя крокі навічка? Складзіце другое апавяданне.

Да трэцяга малюнка:

Дзе вырашылі пакатацца хлопчыкі? Што адбылося ў час спуску з гары? Складзіце трэцюю частку апавядання.

Да чацвёртага малюнка:

Як дапамаглі вучні Васю? Чаму Вася працягваў хадзіць на лыжах? Складзіце чацвёртую частку апавядання.

Потым ідзе праца над загалоўкам малюнкаў і ўсяго апавядання, а таксама над складаннем плана, пасля чаго вучні расказваюць поўны тэкст сачынення з выкарыстаннем апорных слоў і выразаў:

пра снег: *рыхлы, мяккі, глыбокі, круты спуск, гурба*;

пра лыжнікаў: *сабраліся, вучылі хадзіць, вучыўся, крута павярнуў, зламаў лыжу, упаў, дапамаглі, хутка хадзіць*.

Пасля такой падрыхтоўчай працы вучні самастойна афармляюць тэкст сачынення.

Вельмі складаным відам працы для вучняў пачатковых класаў з'яўляецца напісанне сачынення па мастацкай карціне, таму Л.Г.Старавойтава старанна прадумвае методыку яго правядзення. Яна арганізуе працу так, каб не толькі дапамагчы вучням скласці і запісаць сачыненне па карціне, але і паклапаціцца аб эмацыянальным уздзеянні жывапіснага палатна на вучняў, навучыць дзяцей чытаць карціну, асэнсаваць яе змест. Каб вырашыць гэтыя задачы, настаўніца ўсю працу над сачыненнем па мастацкай карціне праводзіць у такім парадку:

1. Падрыхтоўка вучняў да ўспрыняцця карціны.

2. Знаёмства з карцінай.

3. Аналіз карціны.

4. Складанне плана сачынення.

5. Знаёмства з мастаком і гісторыя стварэння карціны.

6. Моўная падрыхтоўка і слоўнікавая праца.

7. Вуснае апавяданне па плане.

8. Напісанне першага варыянта сачынення.

9. Напісанне канчатковага варыянта сачынення.

10. Аналіз творчых работ школьнікаў.

Вось як арганізуе педагог працу над сачыненнем па карціне І.І. Шышкіна "Жыта". З мэтай падрыхтоўкі вучняў да ўспрыняцця карціны настаўніца праводзіць экскурсію ці прагулку ў поле і арганізуе назіранні дзяцей за зменамі ў прыродзе. Пасля дае магчымасць вучням абмяняцца ўражаннямі, якія яны атрымалі ў час калектыўнай прагулкі:

Як выглядае жытняе поле ў ліпені, жніўні? Што можна сказаць пра жыта? Якія фарбы паявіліся ў прыродзе ў летні час? А як прыгажосць лета можна захаваць нават зімой?

Затым дзецям прапануецца разгледзець карціну Шышкіна, палюбавацца ёю, паразважаць над яе зместам. Гэта вельмі важны момант урока. Менавіта ў гэтыя хвіліны, калі дзеці ўважліва ўглядаюцца ў карціну, твор жывапісу выконвае сваю галоўную функцыю: уздзейнічае на пачуцці, развівае густ. Настаўніца дае магчымасць дзецям выказаць свае меркаванні, а затым пачынае аналіз карціны. Асноўным метадам аналізу з'яўляецца гутарка. Настаўніца дакладна і ясна фармулюе пытанні, падводзячы вучняў да разумення сюжэта і ідэі карціны. Улічваючы, што з пейзажнай карцінай вучням пачатковых класаў працаваць яшчэ складана, гутарку педагог дапаўняе кароткім эмацыянальным апавяданнем па змесце карціны. Жывое слова Людмілы Георгіеўны, падтрыманае зрокавым уражаннем, захапляе, выклікае цікавасць у вучняў, дапамагае ім разабрацца ў змесце карціны, выклікае жаданне самім гаварыць упэўнена, вобразна, пранікліва і шчыра:

— Быццам мора, шуміць і калысіцца жытняе поле. Толькі пасярэдзіне злёгку расступілася яно, прапускаючы палявую дарогу. Здаецца, вось-вось прасёлак знікне ў хвалях зазіхацеўшага ўсімі адценнямі золата жыта, ускалыханага наляцеўшым аднекуль гарачым ветрыкам. Зацяняючы дарогу, ластаўкі нізка "стрыгуць" нагрэтае паветра, а вышэй, над полем, на фоне бязмежнага блакітнага неба ў паўдзённую спёку паднімаюцца, шырока раскінуўшы цёмна-зялёныя галіны, адзінокія хвоі — апошнія шматвекавыя волаты, якія ўцалелі ад смалістага бору, які калісьці шумеў на месцы ўзаранага поля. Усё чакае свежага летняга дажджу, і яго ўжо прадказваюць бачныя на даляглядзе апалавыя воблачкі...

Пры складанні плана сачынення настаўніца выкарыстоўвае калектыўныя формы працы і гутарку. Паведамленне пра аўтара карціны і гісторыю яе напісання педагог даручае вучням падрыхтаваць самастойна, што спрыяе выхаванню ў іх адказнасці.

ВАЖНАЙ умовай добрага сачынення з'яўляецца правільная арганізацыя працы над моўнай падрыхтоўкай і складаннем тэматычнага слоўніка. Вось якія заданні падрыхтавала Людміла Георгіеўна на гэтым этапе:

1. Падбярыце сінонімы да слоў *мастак, стварае, карціна.*

2. Паслухайце і скажыце, якія з падабраных вамі вершаў рускіх паэтаў можна аднесці да гэтага пейзажу. Якія словы вы знайшлі ў гэтых творах для апісання жыта, неба, хвоек і г.д.?

Пры апісанні карціны настаўніца акцэнтуе ўвагу вучняў на такіх важных дэталях, як колер жыта, ступень яго спеласці, прыгажосць; пры апісанні неба звяртае ўвагу на слова "лазурны", значэнне якога вучні звяраюць па тлумачальным слоўніку. Адначасова вядзецца праца над удасканаленнем арфаграфічных навыкаў.

У ходзе вуснага апавядання дзеці выкарыстоўваюць словы з сумесна складзенага тэматычнага слоўніка, адбіраюць неабходныя выразы для апісання карціны. Затым вучні пішуць першы варыянт сачынення. Пасля калектыўнага рэдагавання ствараецца канчатковы варыянт.

Людміла Георгіеўна выхоўвае ў сваіх вучняў уменне назіраць і перадаваць словамі вынікі сваіх назіранняў, пры гэтым імкнецца да таго, каб дзеці падбіралі дакладныя словы і выразы для характарыстыкі заўважаных прадметаў і з'яў. Назіранні вучняў бываюць выпадковыя, стыхійныя, але настаўніца арганізуе спецыяльныя, мэтанакіраваныя назіранні (вывучэнне асобных прадметаў, назіранні за з'явамі прыроды, жыццём раслін і жывёл) і потым прапануе дзецям напісаць сачыненне-апісанне па асабістых назіраннях і ўражаннях.

Сачыненне-апісанне служыць цудоўным сродкам для развіцця дакладнай і выразнай мовы. Яно адлюстроўвае дзіцячае бачанне свету, яго маленькае "я". Па просьбе настаўніцы дзеці назіраюць за вячэрнім небам і першымі замаразкамі, за снегападам і капяжом, за вясновымі ручайкамі і першай траўкай. Пры гэтым яна дае вучням канкрэтныя заданні. Напрыклад, каб вучні ўбачылі вясенняе абнаўленне прыроды, ім прапануецца паназіраць за дрэвамі, на якіх ёсць гнёзды шпакоў, і прасачыць за тым, калі прылятаюць гракі, як яны будуць абжываць свае кватэры, прыглядзецца да пагоркаў, калі паявіцца першая траўка, сказаць, якая яна.

Правядзенне гэтых назіранняў, лічыць настаўніца, немагчыма без экскурсій. І не толькі ў прыроду. Так, калі яе вучні добра навучыліся чытаць, яна арганізавала экскурсію ў раённую дзіцячую бібліятэку. Адбылося першае знаёмства з гэтай установай. Гэты дзень пакінуў яркія ўспаміны ў вучняў яшчэ і таму, што работнікі бібліятэкі з удзелам дзяцей падрыхтавалі свята "Пасвячэнне ў чытачы". А на ўроку дзеці выказалі свае пачуцці і адносіны да перажытага ў форме сачынення.

Пры падборы тэматыкі сачыненняў Людміла Георгіеўна імкнецца да таго, каб дзеці пісалі іх па свежых уражаннях, каб сюжэты не былі надуманыя, каб яны адлюстроўвалі жыццёвую праўду, вучыць услухоўвацца, углядацца ў навакольны свет, бачыць прыгажосць прыродных з'яў. Калі дзіця навучыцца назіраць, то свет для яго будзе напоўнены адкрыццямі, аб якіх захочацца расказаць іншым.

Развіццю мовы вучняў, іх пазнавальнай і мысліцельнай дзейнасці садзейнічае выкарыстанне на ўсіх уроках тэхнічных сродкаў, якія даюць магчымасць стварыць у вучняў больш поўнае ўражанне аб той з'яве, якая вывучаецца. Прагляд, напрыклад, фільма ў спалучэнні са словам настаўніка — гэта магчымасць актыўнага ўспрыняцця рэчаіснасці.

Падрыхтоўка да такога ўрока развіцця мовы заключаецца ў тым, што настаўніца сама праглядае фільм, затым вызначае асноўны змест урока і яго выхаваўчую задачу, складае план, запісвае словы і выразы, якія неабходна растлумачыць. Урок-сачыненне на аснове фільма настаўніца праводзіць па плане:

1. *Кароткая ўступная гутарка, якая рыхтуе вучняў да ўспрыняцця зместу фільма.*

2. *Заданні (адно-два): на што звярнуць увагу ў час прагляду фільма.*

3. *Паказ фільма (можа быць аднаразовым ці шматразовым).*

4. *Свабодныя выказванні вучняў пра фільм. Напрыклад, пра што расказваецца ў фільме? Што ў ім спадабалася? Чаму?*

5. *Мэтанакіраваная гутарка па змесце ўсяго фільма і яго частак.*

6. *Работа над планам, калі план не даецца ў гатовым выглядзе.*

7. *Вуснае сачыненне па плане, стылістычныя практыкаванні.*

8. *Напісанне сачынення.*

9. *Праверка пісьмовай працы і яе аналіз.*

У пачатковых класах для развіцця мовы часцей за ўсё настаўніца выкарыстоўвае дыяфільмы. Дыяфільм у адрозненне ад кінафільма дае магчымасць затрымаць увагу вучняў на канкрэтным эпізодзе, яшчэ раз паказаць некаторыя кадры, калі ёсць у гэтым неабходнасць.

Добрую падрыхтоўку да сачынення дае дэманстрацыя гукавых дыяфільмаў. Музычнае афармленне і выразнае чытанне дыктара аказвае на вучняў вялікі ўплыў. Яны атрымліваюць узор выразнага чытання і больш глыбока засвойваюць змест дыяфільма.

Вось якія задачы па развіцці мовы на аснове прагляду дыяфільма ставіць настаўніца:

1) *выразнае чытанне тэкстаў да кадраў дыяфільма;*

2) *самастойнае складанне сказаў-подпісаў да кожнага кадра дыяфільма;*

3) *складанне апавядання па змесце дыяфільма;*

4) *складанне апавяданняў і напісанне сачыненняў па аналогіі з тым, што вучні ўбачылі ў дыяфільме.*

У час падрыхтоўкі да сачыненняў па прачытаным дзеці вучацца выбіраць тыя факты, якія непасрэдна адносяцца да тэмы. Работу над такім сачыненнем настаўніца праводзіць наступным чынам: спачатку чытае твор, высвятляе асноўны яго змест, затым разам з вучнямі складае план, а па плане адбірае матэрыял па тэме сачынення. Вучні ўважліва прачытваюць тэкст, алоўкам пазначаюць сказы, якія адносяцца да тэмы, звяртаюць увагу на выяўленчыя сродкі мовы. Практыкуе Людміла Георгіеўна і вуснае апавяданне, на аснове якога вучні будуць пісаць сачыненне. У час напісання ў асобных выпадках вучні могуць звяртацца да тэксту.

ПРАВОДЗЯЧЫ работу па напісанні сачыненняў, настаўніца імкнецца, каб вучні ў сваіх творах паказалі адносіны да таго, што яны бачылі, што ім асабліва спадабалася, зацікавіла, якія вывады з таго, што ўбачылі, яны зрабілі для сябе. Людміла Георгіеўна ўпэўнена, што ніякія іншыя практыкаванні па мове не могуць параўнацца з сачыненнем па сваіх выхаваўчых магчымасцях. Сачыненне дапамагае дзецям глыбей усвядоміць свае пачуцці і ўражанні, прывучае да стройнага і паслядоўнага мыслення, развівае цікавасць да літаратурнай творчасці.

Для вучняў гэтай настаўніцы ўрокі, на якіх яны пішуць сачыненні, самыя радасныя. Менавіта на іх ствараецца атмасфера, якая садзейнічае творчаму ўздыму, выклікае ў дзяцей духоўную акрыленасць.

**Ванда ДЗЯМ'ЯНКА.**

НА ЗДЫМКУ: Л.Г.Старавойтава на ўроку.

**Фота аўтара.**

Лексіс

# Пра літары і дыграфы

*Піша Вам вучаніца з Ляхавічаў.*

*Справа ў тым, што ў нашай школе ўзнікла пытанне адносна алфавіта беларускай мовы. Некаторыя настаўнікі прытрымліваюцца думкі, што ў нас не існуе літары **дз** і літары **дж**. Яны лічаць, што гэта спалучэнні звычайных літар **д**, **з** і **ж**, якія ўтвараюць цэльныя гукі [дз] і [дж]. Такім чынам атрымліваецца, што гэткіх літар не існуе. Вучні філалагічнага профілю і некаторыя іншыя настаўнікі кажуць, што беларускі алфавіт мае асобныя літары: **дз** і **дж**. Мы вырашылі ўзяць за доказ буквар для школ з беларускай мовай навучання, дзе адзначана, што літары **дз** і **дж** ёсць. Тады настаўнікі сталі апеляваць да іншай крыніцы: у буквары для школ з рускай мовай навучання, як і ў падручніку па беларускай мове для першых класаў гэтых жа школ, канкрэтна напісана, што беларуская мова не мае літары **дз** і літары **дж**. Канешне, у такім слове, як **адзначыць**, злучэнне літар **д** і **з** нельга аднесці да адной літары "дз", але словы — **дзяцел**, **дзядзька** — прыклады ўжывання літары "дз" як самастойнай, адной літары. Я вельмі хачу, каб вы далі поўны адказ на гэтае пытанне: ці ёсць у беларускім алфавіце літара **дз** і літара **дж**? Гэта вельмі важна, асабліва для абітурыентаў.*

Паважаная вучаніца!

Відавочна, ты прытрымліваешся таго ж пункту погляду, што і некаторыя настаўнікі вашай школы, а следам за імі і вучні філалагічнага профілю. На жаль, яны ніяк не хочуць паверыць сваім уласным вачам, бо ў друкаваным выглядзе *Дз дз* і *Дж дж* — гэта дзве літары, раздзеленыя хоць і маленькім, але ўсё ж прагалам. Калі ж у гэтых спалучэннях адна літара вялікая, а другая малая, то наогул, адкуль могуць узнікнуць сумненні?

Літара — гэта асобны пісьмовы знак, які на пісьме абазначае пэўны гук або спалучэнне гукаў. Інакш кажучы, толькі адзіны знак з'яўляецца літарай. У беларускай мове, напрыклад, літара *Яя* можа абазначаць або два гукі [йа] (*яма*), або гук [а] і мяккасць папярэдняга зычнага: *мяккі* [м'а]*ккі*. З гэтага простага азначэння вынікае, што *Дз дз* і *Дж дж* складаюцца з трох знакаў *д*, *з* і *ж*, якія і з'яўляюцца літарамі. Ты правільна адзначыла, што спалучэнні *д* + *з* і *д* + *ж* могуць абазначаць або два гукі (*адзначыць* [д + з], *паджарыць* [д + ж]), або адзін гук (*дзынкаць* [дз], *ваджу* [дж] — параўн. *важу*). Да літар адносяць і такія знакі, якія толькі ў спалучэнні з іншымі літарамі абазначаюць гук, а самі па сабе не маюць гукавога значэння. Такой літарай у беларускай мове з'яўляецца *Ьь*, які толькі паказвае, што папярэдні зычны — мяккі (*конь* [н']).

У мовазнаўстве дзве літары, якія служаць для абазначэння аднаго гука, называюць дыграфамі. У беларускай мове дыграфамі лічацца толькі спалучэнні *Дж* і *Дз*, хоць фактычна такімі з'яўляюцца і *нь, ль, дзь, ць, зь, сь*.

У далейшым ты пераблытала гукі і літары. У прыведзеным слове *дзяцел* першы гук не [дз], а [дз'] (*дзь*), а ў слове *дзядзька* — першы гук [дз'], а другі — [ц']. Сапраўдны гук [дз] сустракаецца ў невялікай колькасці слоў тыпу *дзынкаць, дзылінкаць, ксяндзы, пэндзаль*.

Гукі [дз] і [дз'] фанетычна больш падобныя адзін на адзін, чым [д] і [дз'], але функцыянальна іменна [д] і [дз'] паводзяць сябе, як і ўсе іншыя парныя па цвёрдасці-мяккасці. Напрыклад, [д] чаргуецца з [дз'] у месным склоне як [с] з [с'], [л] з [л'] і да т.п.: *сад — у садзе, час — у часе, стол — у стале, балкон — на балконе* і да т.п. У сувязі з гэтым тэарэтычна можна было б і не ўводзіць дыграф *Дз, дз*, а выкарыстоўваць літару *Дд*, але наша пісьмо страціла б адну з арыгінальных рыс, якія адрозніваюць яго ад іншых, заснаваных на кірыліцкім алфавіце. Тым больш што з самага пачатку ўзнікнення новай беларускай мовы іменна так адлюстроўвалася на пісьме дзеканне — адна з характэрных гукавых асаблівасцей беларускай мовы, распаўсюджаная амаль на ўсёй тэрыторыі сучаснай Беларусі. Абазначэнне мяккага [дз'] з дапамогай літар *Дз, дз* у нас мае вельмі глыбокую традыцыю.

З канца 50-х гадоў мінулага стагоддзя дзеканне як фанетычную з'яву пачалі адзначаць і рускія даследчыкі ў рускім літаратурным вымаўленні, у прыватнасці, у вымаўленні акцёраў маскоўскіх тэатраў. Занеслі яго туды выдатныя дзеячы рускай культуры — выхадцы з заходніх абласцей Расіі (Смаленская, Бранская, Разанская вобласці), дзе ў мясцовых гаворках дзеканне шырока распаўсюджана. Аднак у рускім пісьме ў сілу традыцыі яно не знаходзіць адлюстравання.

Гук [дж] у беларускай мове адносіцца да асноўных, бо шырока выкарыстоўваецца для адрознення слоў. Гэтым гукам слова *жала*, напрыклад, адрозніваецца ад слова *джала*, дзеяслоўная форма *важу* ўзыходзіць да інфінітыва *вазіць*, а *ваджу* — да інфінітыва *вадзіць* і г.д. Гэты звонкі гук мае адпаведны глухі [ч], бо калі ён аказваецца ў канцы слова, то чаргуецца з [ч], напрыклад, слова *дождж* вымаўляецца як [дошч]. Наадварот, [ч], аказаўшыся перад звонкім зычным, вымаўляецца як [дж], напрыклад, у слове *лічба* [л'іджба]. І хоць у радзе пазіцый у слове гэты гук узнік вельмі даўно, для яго таксама няма асобнай літары ў кірыліцкай азбуцы. Гэты гук у свой час быў і ў рускай мове, але тут ён вельмі хутка спрасціўся да [ж], параўн. рус. *хожу* і бел. *хаджу*. Тое ж адбылося з [дж] і ў некаторых беларускіх аддзеяслоўных назоўніках тыпу *прапажа, сажа* (ад дзеяслова *садзіць*).

Зноў жа ў сілу традыцыі ў сучаснай літаратурнай мове прынята абазначаць гэты гук дзвюма літарамі *Дж, дж* — дыграфам.

Выкарыстанне дзвюх літар для абазначэння аднаго гука ў беларускай мове некалькі ўскладняе правілы чытання, але практыка сведчыць, што цяжкасці існуюць толькі да той пары, пакуль не будзе дасягнута бегласць чытання. На першапачатковым этапе вучню цяжка ўстанавіць, што словы *падзяліць* і *падзеляніць, паджгаць* і *аджаваць* трэба чытаць па-рознаму, але як толькі чытанне ператвараецца з механічнага ва ўсвядомленае, гэта цяжкасць пераадольваецца. Праўда, не зусім, бо шмат слоў, якія прыйшлі да нас праз пасрэдніцтва рускай мовы, захоўваюць вымаўленне *дж* як спалучэнне гукаў, а не як адзіны гук: *джэм, джынсы, джыгіт, джэнтльмен*.

На акадэмічнай канферэнцыі па рэформе беларускага правапісу і азбукі, якая адбылася ў лістападзе 1926 года, пытанне аб спецыяльных літарах для гукаў [дж] і [дз] шырока абмяркоўвалася. Было ўнесена шмат прапаноў — ад запазычання для іх абазначэння літар з сербскай азбукі да прыдумвання зусім новых літар, але ўрэшце перамагла ўжо існуючая традыцыя, якая і захавалася да нашых дзён. Такая ж традыцыя перадачы [дж] і [дз] захавалася і ва ўкраінскай мове: *бджола, дзвін*.

Цяпер пра беларускі буквар. Не ведаю, які маецца на ўвазе буквар, у якім 34 літары. Напэўна, гэта ты сама падлічыла, бо ў буквары алфавіт не падаецца, а літары размешчаны па ступені цяжкасці іх засваення. Паколькі цяпер у нас прынята методыка навучання грамаце ад гука да літары (спачатку выдзяляецца гук, а затым паказваецца, як ён адлюстроўваецца на пісьме), то ў буквары абавязкова павінны быць *Дж дж* і *Дз дз*, бо яны абазначаюць важныя гукі ў беларускай мове. Алфавіт звычайна змяшчаецца ў слоўніках, асабліва ў перакладных. Так, у "Беларуска-рускім слоўніку для школьнікаў" (Мн., 2001), укладальнікам якога з'яўляецца член-карэспандэнт НАН Беларусі А.М.Булыка, *Дж дж, Дз дз* змешчаны ў дужках і зроблена наступная заўвага: "Дыграфы *дж, дз* пры размяшчэнні слоў у алфавітным парадку разглядаюцца кожны як дзве літары". Гэтыя дыграфы змяшчаюцца ў дужках пры *Дд* і ў іншых слоўніках, каб чытачу было ясна, дзе шукаць адпаведныя словы.

Такім чынам, і практыка паказвае, што ў беларускай азбуцы 32 літары. Выкарыстанне дыграфаў не з'яўляецца ўласцівасцю толькі беларускага пісьма. Яны ёсць таксама ва ўкраінскай мове, шмат іх ва ўсіх мовах, у якіх за аснову пакладзена лацінская азбука (польская, нямецкая, англійская, французская). І нідзе яны ў склад алфавіта не ўключаюцца. Адсюль вынікае, што абазначэнне імён *Дзяніс, Дзмітрый, Дзямід* праз ініцыял *Дз.*, якое ў апошнія часы пашыралася ў друку, з'яўляецца памылковым, бо ініцыялы — гэта толькі першыя літары імён і імён па бацьку. Калі чалавека называюць *Дзяніс Дзмітрыевіч*, то яго ініцыялы *Д.Д.*

**Аляксандр ПАДЛУЖНЫ,**
**дырэктар Інстытута мовазнаўства Нацыянальнай акадэміі навук, доктар філалагічных навук, прафесар.**

Перыёдыка

# "Адукацыя і выхаванне"

***Пяты нумар часопіса незвычайны — ён прысвечаны дзесяцігоддзю з даты афіцыйнай рэгістрацыі "АіВ". Адкрывае нумар артыкул галоўнага рэдактара, доктара педагагічных навук, прафесара У.П.Пархоменкі, дзе ён дзеліцца сваімі думкамі аб перспектывах часопіса.***

Будучы ідэйным натхняльнікам, ініцыятарам і бязменным кіраўніком выдання, Уладзімір Паўлавіч добра ўяўляе сабе накірункі развіцця часопіса, бо стаяў ля яго вытокаў і хвалюецца за будучыню свайго дзецішча.

Кароткі экскурс у гісторыю "АіВ" робіць намеснік галоўнага рэдактара Н.Ю.Зайцава ў артыкуле "На падмурку здабыткаў — у будучыню". Нінэль Юр'еўна таксама была сярод першых супрацоўнікаў "АіВ". Чытач даведаецца, як стварыўся часопіс, як змянялася яго накіраванасць у залежнасці ад патрабаванняў часу і сістэмы адукацыі. У артыкуле характарызуюцца рубрыкі, якія існуюць у часопісе, расказваецца пра мерапрыемствы, арганізатарам і ўдзельнікам якіх выступае рэдакцыя, пра найбольш актыўных аўтараў.

Шматлікія віншаванні як афіцыйных асоб, так і калег, чытачоў і аўтараў часопіса, цёплыя словы ў адрас "АіВ", змешчаныя ў нумары, сведчаць аб тым, што дзесяць гадоў прайшлі не марна, нешта карыснае часопісу ўдалося зрабіць.

Пад новай рубрыкай "Насустрач II з'езду настаўнікаў Рэспублікі Беларусь" кандыдат сацыялагічных навук В.П.Пліско і навуковы супрацоўнік НІА С.А.Конюх-Сініца ў артыкуле "Сацыякультурная дзейнасць у рэфармуемай школе" адзначаюць, што фарміраванне асобы чалавека, выхаванне і навучанне так або інакш звязаны з сацыяльнай сферай. І тут немалаважнае значэнне мае арганізацыя вольнага часу навучэнцаў. Артыкул пабудаваны на канкрэтным матэрыяле з Рагачоўскага раёна.

Настаўнік хіміі і біялогіі з Тупрынскай сельскай школы Т.І.Вераскоўская дзеліцца сваім вопытам укаранення інстытуцкай тэхналогіі ў школе. У працэсе работы аўтар пераканалася, што комплекснае прымяненне ўсіх форм (лекцый, семінараў, самастойнай работы, залікаў) дапамагае вырашаць задачы падрыхтоўкі школьнікаў да паступлення ў ВНУ.

І яшчэ адна новая рубрыка — "Падручнік: гісторыя і сучаснасць". Адкрывае яе дырэктар НІА, кандыдат педагагічных навук Б.М.Крайко. Для правільнага вызначэння структуры, псіхолага-педагагічных і метадычных патрабаванняў да падручніка, зазначае аўтар, неабходна акрэсліць яго функцыянальнае прызначэнне. Ён выказвае сваё бачанне, якім павінен быць падручнік, і запрашае чытачоў прыняць удзел у абмеркаванні гэтай праблемы.

Не абышлі ўвагай і адну з найважнейшых праблем у рэфармаванні адукацыі — педагагічныя кадры. Доктар псіхалагічных навук І.А.Фурманаў у сааўтарстве з Е.А.Трухан у артыкуле "Сіндром "эмацыянальнага выгарання" ў педагагічнай дзейнасці" паднімаюць вельмі важную праблему — узнікненне прафесійнага стрэсу ў настаўнікаў у выніку перанапружання, якое можа выклікаць дэзадаптацыю і дэзарганізацыю паводзін.

Кандыдат фізіка-матэматычных навук А.І.Мельнікаў пад рубрыкай "Філасофія, метадалогія" выступае з артыкулам "Бесперапыннасць і дыскрэтнасць: аспекты вывучэння".

Рубрыка "Адукацыя. Культура. Адраджэнне" прадстаўлена артыкулам малодшага навуковага супрацоўніка Інстытута гісторыі НАН Беларусі А.А.Скеп'ян "Мецэнацтва ў мастацкай галіне (XVI-XVII стст.)". Аўтар падкрэслівае, што развіццё культуры немагчыма без удзелу і дапамогі ўсіх інстытутаў грамадства, бо адна дзяржава не ў стане задаволіць усе патрэбы людзей у прыгожым.

Крытычныя, незапраграмаваныя сітуацыі, якія могуць прывесці не толькі да збою і спынення вытворчага працэсу, але і да больш сур'ёзных наступстваў — тэма артыкула доктара псіхалагічных навук, прафесара М.А.Крэменя "Апераджальнае адлюстраванне рэчаіснасці", надрукаванага пад рубрыкай "Псіхапедагогіка".

Спадзяёмся, што чытачоў зацікавіць і артыкул кандыдата фізіка-матэматычных навук, дацэнта кафедры алгебры і геаметрыі БДПУ імя М.Танка У.У.Шлыкава "Дылема інтуітыўнага і лагічнага з пункту погляду канцэпцыі дадатковасці" пад рубрыкай "Пошук, даследаванне, эксперымент".

Пад рубрыкай "Творчая асоба: тэорыя і практыка" доктар педагагічных навук, прафесар К.С.Гаўрылавец у артыкуле "Выхаванне творчай асобы настаўніка ў ВНУ" дзеліцца сваімі меркаваннямі па гэтай праблеме.

Завяршае нумар рэцэнзія на кнігу Ю.Аляксеева "Украіна: освіта і держава (1987 — 1997)" (Кіеў, 1998) аспіранткі БДУ Н.Бандарэнкі.

**Галіна КЛІМАВА.**

